Народная Воля 23 КРАСАВІКА 1999 г.

Дайджест

## Сербы ищут спасения. Их взоры устремлены на Восток

Решение Югославии о формальном присоединении к союзу России и Беларуси вряд ли немедленно изменит военный расклад сил в этом регионе.

Лидер Радикальной партии и вице-премьер правительства Войслав Шешель не мог скрыть своей радости после того, как югославский парламент проголосовал за вступление Югославии в свободный союз с Россией и Беларусью. Два года понадобилось этому крайне правому националисту и бывшему руководителю милицейского отряда "Белые орлы", "прославившегося" своими этническими чистками по всей территории Боснии, чтобы одержать эту пропагандистскую победу.

Перед войной Шешелю удалось несколько раз приехать в Минск и Москву, встретиться с братьями "по крови и по разуму" — белорусским президентом Александром Лукашенко и Владимиром Жириновским. При этом Лукашенко всегда настолько выделяется своей радикальной позицией, что даже Россия чувствовала отвращение, сотрудничая с ним.

В конце января Югославия получила статус постоянного наблюдателя в российско-белорусском союзе. Теперь, если их заявка на вступление будет одобрена, югославская сторона станет полноправным членом политического, экономического, а в перспективе и военного союза.

Раньше правительство президента Слободана Милошевича осторожно относилось к идее вступления в славянский союз — что могут дать Сербии два обанкротившихся государства, состоящие в "хромающем на обе ноги" союзе. Противником инициативы Шешеля также была прозападная Сербская обновленная партия во главе с Вуком Драшковичем.

Однако все изменилось с началом натовских бомбардировок: Сербия оказалась в таком положении, когда ей нужны любые друзья. Каждый вечер государственное телевидение подробно рассказывает о визитах поддержки, которые совершают в Сербию политики и делегации иностранных государств. Среди них есть и организации, известные своей радикальной антизападной позицией, которые регулярно направляются с "мирными миссиями" в Белград. Так, на выходные в Белград наведались российские казаки и пообещали прислать конницу для защиты Сербии.

Милошевич назвал вчерашнее голосование "великим историческим шагом в деле обеспечения безопасности Югославии", хотя и не почтил своим личным присутствием парламентский зал, украшенный мраморными колоннами и ореховым деревом, — его власть давно уже держится на "харизме отсутствия". А вот парламент непокорной Черногории — единственной республики, кроме Сербии, в составе югославской федерации — объявил это голосование незаконным.

У входа в зал заседания Шешель злорадствовал перед окружившими его журналистами и телерепортерами: "Этот союз все расставил на свои места. Теперь все снова будет нормально".

Сербский певец славянского братства был единственным политиком, кто выступал перед собранием без бумажки. Он говорил громко и уверенно: "Мы принимаем долгосрочное, стратегически важное решение о присоединении к союзу России и Беларуси. Наше будущее на востоке. Американские бомбы и ракеты просто ускорили принятие этого решения. Нет ни одного православного, нет ни одного патриота, кто не обратил бы свои взоры к нашей Матери... Мать-Россия не оставит нас одних в этом мире. НАТО, рано или поздно, сломает себе зубы и капитулирует".

Шешель не сомневается, что Венгрия, Польша и Чехия — новые члены НАТО, а сейчас и кандидаты на вступление в Европейский Союз — скоро разочаруются в своих ожиданиях. "Эти государства, которые так легко пошли на поводу у западных стратегов, уже сейчас ощущают на себе негативные последствия такого решения, — заявил он. — Запад лишь хочет разорить их".

По его словам, теперь, когда Штатам не удалось покорить Югославию с помощью воздушных бомбардировок, они попытаются использовать албанцев, румын, болгар и венгров вместо американских пехотинцев.

Жители Белграда восприняли новость о новом союзе с Россией и Беларусью неоднозначно. Десятилетиями маршал Тито сводил "на нет" все попытки Москвы вмешиваться во внутренние дела Югославии. К тому же некоторые сербы опасаются возрастающего влияния России не меньше, чем доминирования Соединенных Штатов.

Но все же идея православного славянского союза привлекла внимание многих. Несмотря на прозвучавшее на днях в югославском парламенте, новый союз вряд ли повлечет за собой какие-либо серьезные военные последствия. От Белграда до Москвы 1900 километров, до Минска — 1200. Задержав российский конвой из 75 автомобилей с топливом и гуманитарной помощью для Сербии, Венгрия показала, в какой изоляции на самом деле оказался Белград.

**Подготовил по материалам зарубежной печати**

**Александр СИЛИЧ.**

Напярэдадні

## Ад Бона да Ізерлона



*У гэтыя дні Беларускі камітэт міру нагадвае нейкі штаб напярэдадні важнай падзеі. Ідзе падрыхтоўка буйнога дэсанта ў Германію, які прыме там удзел у чарговым традыцыйным "Тыдні міру". Пра будучую падзею нам расказвае старшыня гэтай грамадскай арганізацыі Іван КІРЫЧЭНКА.*

**— Іван Сямёнавіч, якое значэнне надаецца ў самой Германіі згаданым "Тыдням міру"?**

— Даволі важнае. Мерапрыемствы, якія праходзяць у іх рамках, шырока асвятляюцца ў друку; прадстаўнікоў нашай дэлегацыі прымаюць бургамістры шэрагу гарадоў; праводзяцца грунтоўныя дыскусіі з дэпутатамі, актывістамі грамадскіх рухаў ФРГ. На гэты раз плануецца прыём нашай дэлегацыі ў бундэстагу (парламенце) Германіі.

**— Чым тлумачыцца такая ўвага да гэтага мерапрыемства?**

— Найперш, таму, што яно праходзіць у рамках народнай дыпламатыі. А яна ж — надзейны падмурак міжнародных зносін. Фінансуюць правядзенне сустрэчы самі яе ўдзельнікі, так сказаць, з уласнай кішэні. Дыскусіі вядуцца не толькі на канферэнцыі, у высокіх кабінетах, але і ў сем'ях. У сям'і нямецкага франтавіка мінулай вайны нярэдка гасціць наш ветэран. Ім ёсць што ўспомніць і добра падумаць пра будучае. Так што ў ходзе падобных сустрэч закладваюцца новыя сардэчныя адносіны.

**— Якая праграма сёлетняга "Тыдня міру"?**

— Ён пачнецца канферэнцыяй аб праблемах умацавання бяспекі ў Еўропе. У дыскусіі выказалі згоду прыняць удзел вядомыя дзеячы і навукоўцы абедзьвюх краін, дэпутаты розных узроўняў. Мяркуецца, што будуць закрануты такія пытанні, як гісторыя ўзаемаадносін Германіі і Беларусі, вырашэнне сацыяльных праблем у абедзвюх дзяржавах.

Плануецца таксама сумесная служба ў храме, сумесная праца па добраўпарадкаванні могілкаў, на якіх пахаваны савецкія воіны. Затым нашы ўдзельнікі раз'едуцца па сем'ях, у якіх яны правядуць некалькі дзён і дзе глыбей пазнаёмяцца з жыццём грамадзян ФРГ. Завершыцца тыдзень прэс-канферэнцыяй для журналістаў нямецкіх сродкаў масавай інфармацыі.

**— Відаць, будзе закрануты і балканскі крызіс?**

— Безумоўна. Да ўдзельнікаў семінара будзе даведзены змест заявы Беларускага камітэта міру аб югаслаўскай вайне, якая апублікавана ў беларускай прэсе. Мы лічым, што неабходна аб'яднаць усе сілы на захаванне міру і бяспекі на нашым кантыненце.

**— Хто ж будзе прадстаўляць нашых народных дыпламатаў?**

— У дэлегацыі — сорак чалавек. Сярод іх — працаўнікі палёў Капыльшчыны, работнікі вытворчага аб'яднання "Гарызонт", Мінскага гадзіннікавага завода, а таксама навукоўцы, вучоныя, пісьменнікі, прадстаўнікі прафсаюзных, грамадскіх і рэлігійных арганізацый. Яны, вядома, прытрымліваюцца розных поглядаў, але ўсе аб'яднаны клопатам захаваць мір на зямлі, данесці нямецкім субяседнікам праўду аб працэсах, якія ідуць у Беларусі. Гэта асабліва важна яшчэ і таму, што "Тыдзень міру-99" прымеркаваны да 60-годдзя пачатку другой сусветнай вайны і 55-годдзя вызвалення Беларусі.

**— Хто ваш партнёр з нямецкага боку?**

— Інстытут царквы і грамадства Евангельскай царквы зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Дарэчы, згаданая царква мае вялікі ўплыў на жыццё ў Германіі. Усе мерапрыемствы будуць праходзіць у названай зямлі, у такіх яе гарадах, як Дортмунд, Бон, Хаген, Камен, Ізерлон...

**— Як вынікае з вашых слоў, "Тыдзень міру" праводзіцца ўжо некалькі год запар. Якія яго вынікі? Што можна запісаць у актыў мерапрыемства?**

— Цяпер "Тыдзень міру" стаў састаўной часткай важнай праграмы "Прымірэнне". Можна сказаць, што ён і наш камітэт міру паўплывалі на з'яўленне гэтай важнай праграмы. Беларускія прыхільнікі міру стаялі ля вытокаў загойвання цяжкіх душэўных ран мінулай вайны, наладжвання эпохі супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі і Германіі. У тым пазітыўным, што адбылося ў апошнія гады ва ўзаемаадносінах паміж нашымі краінамі, ёсць прыкметны ўклад Беларускага камітэта міру і яго традыцыйных "тыдняў"...

Цяпер мы адпраўляемся ў Германію на мерапрыемствы, якія пройдуць ад Бона да Ізерлона, з адной мэтай — актыўней працягваць працу па ўмацаванні даверу і добрасуседства паміж нашымі народамі.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

З нагоды 700-годдзя Асманскай імперыі

## Пасол з флейтай

З прыездам да нас новага пасла Турцыі спадарыні Шуле Сойсал у культурнай сімфоніі беларускай сталіцы загучалі непаўторныя звонкія ноты. Летась мінчане пазнаёміліся з талентам заслужанай артысткі Турцыі Шэфікі Кутлуэр, з песнямі і танцамі, навінкамі моды гэтай краіны.

І вось новая сустрэча. Да нас у госці зноў завітала лаўрэат міжнародных конкурсаў Шэфіка Кутлуэр. Яна выступала ў многіх краінах свету, і амаль усюды яе называлі музычным пасламі Турцыі. На гэты раз у запоўненай зале філармоніі яна выконвала канцэрт соль мажор для флейты з аркестрам Моцарта. Акампаніраваў ёй Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі.

На асаблівым уздыме "музычны пасол" выканала Турэцкі марш. У добра знаёмай мелодыі выдзяляўся непаўторны акцэнт Анкары і Стамбула. І таму зала ўзарвалася апладысментамі і крыкамі "брава".

А пачаўся вечар з выступу пасла Турцыі спадарыні Шуле Сойсал, якая пачала і закончыла прамову па-беларуску — пажаданнем "прыемнага вам вечара". А гаварыла яна пра тое, што канцэрт прымеркаваны да 700-годдзя Асманскай імперыі, якое адзначаецца ў многіх краінах, што ўтварыліся на яе прасторах. Па яе словах, у імперыі ўладарыла багацце ў музыцы, мастацтве, модзе. Спадарыня пасол звярнулася да ўспамінаў беларускай лекаркі Саламеі Русецкай, якая жыла ў Стамбуле і адзначала менавіта такое багацце. Талерантнасць, узаемапранікненне культур — гэта тое, што вылучала імперыю і характэрна для Беларусі, дзе мірна жывуць людзі розных нацыянальнасцей. Гэта тое, чаму многія маглі б павучыцца ў беларусаў, адзначыла Шуле Сойсал.

**Алесь ДРАБЧУК.**

Криминал

## Суд вынес приговор

Минский областной суд вынес приговор по делу, связанному с гибелью в автокатастрофе заместителя председателя Совета Республики Тамары Дудко и ее зятя. Как сообщили БелТА в канцелярии суда, обвиняемый Дмитрий Крученок признан виновным и получил 12 лет лишения свободы.

Напомним, что трагедия произошла 2 января нынешнего года на трассе Минск—Мядель в результате столкновения автомобилей "Фольксваген", которым управлял Крученок, и "Вольво", в котором находились Тамара Дудко и ее семья. Виновник происшествия с места аварии скрылся.

**БелТА.**

## Заява кіраўніцтва Беларускага народнага фронту "Адраджэнне"

Сябры Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" з абурэннем успрынялі драматычную навіну аб спробах апаганіць і спаліць будынак сінагогі ў Мінску ў ноч з 11 на 12 красавіка сёлета. Святыня нашых яўрэйскіх суайчыннікаў стала аб'ектам бандыцкага нападу расійскіх фашысцкіх сіл, пра што сведчыць характар варварскіх дзеянняў і брыдкія надпісы, пакінутыя на месцы злачынства. Асаблівы цынізм злачыннага акту ў тым, што ён арганізаваны ў Дзень памяці ахвяраў Халакосту. У нас адна Айчына — Беларусь. Грамадзяне ўсіх нацыянальнасцяў павінны разам супрацьстаяць фашызму, які наступае з Усходу.

Рэзананс на "Рэзананс"

## За ахвяры ў Югаславіі адказнасць — на Мілошавічы

Глядзеў я "Рэзананс" на БТ 28 сакавіка, і думалася: "Як Вы не старайцеся, гаспадзін Зімоўскі, а да ўзроўню Гебельса вам не дасягнуць! Ніколі!".

Вы паводзіце сябе, як тыповы прадстаўнік якой-небудзь прабальшавіцкай партыі. А на самай справе павінны адлюстроўваць усё, што адбываецца ў свеце, не навязваючы гледачу свой пункт гледжання. У людзей — як вам, мабыць, вядома, — ёсць свая галава на плячах.

Вось прыклад: да падзей у Югаславіі, у Косава вы прыплялі беларускую апазіцыю. Прычым тут яна?! Змяшалі ў кучу ўсё: НАТО і Амерыку, сербаў і касавараў, а наверх — не згодных з існуючым рэжымам у Беларусі. Павучыліся б, як весці перадачу, у сваіх калег — тэлевядучых ГРТ ці НТБ, напрыклад.

Як жа можна рабіць выгляд, што не існуе рэальных фактаў?. Колькі краін НАТО (асабліва ЗША) угаворвалі кіраўнікоў Югаславіі, як яны не здзекаваліся над часткай свайго ж народа, касаўскімі албанцамі. Ці вы не ведалі, што там разгорнуты поўнамаштабны генацыд супраць ні ў чым не вінаватых людзей і вайна ідзе не з "бандытамі", а з дзецьмі, старымі, жанчынамі. Яны не падабаюцца Мілошавічу, бо маюць гонар, годнасць і жаданне жыць самастойна, па сваіх законах і звычаях. І каб імі кіравалі свае кіраўнікі, а не сербскія. Яны не жадаюць жыць на сваёй спрадвечнай зямлі пад чужым прыгнётам. Косаўскія албанцы-шчыптары — патомкі старадаўніх іліраў — жылі на гэтай зямлі не адно тысячагоддзе да прыходу сербаў.

Здавалася б, чаму не даць гэтаму старадаўняму народу аўтаномію, калі яны гэтага горача жадаюць? Жылі б тады з сербамі спакойна, у міры і дружбе. Дык не! Чамусьці косаўскіх албанцаў забіваюць, выганяюць з уласных дамоў, паляць іх жыллё, выцясняюць з даліны ў горы, дзе жыць немагчыма — асабліва зімой.

А цяпер скажыце, гаспадзін Зімоўскі, ці маглі спакойна глядзець на гэтыя бясчынствы ў цэнтры Еўропы цывілізаваныя краіны? Па-вашаму: не трэба было ўмешвацца ў справы суверэннай дзяржавы ФРЮ — няхай хоць пазабіваюць адзін другога?

Вядомая мудрасць сцвярджае: "Не бойся ворага: у крайнім выпадку, ён можа цябе забіць. Не бойся сябра: у крайнім выпадку, ён можа табе здрадзіць. Бойся абыякавых — гэта з іх маўклівай згоды здзяйсняюцца на зямлі ўсе забойствы і здрады". Дык за што ж вы асуджаеце краіны НАТО? За тое, што яны не глядзелі абыякава, як знішчаюць народ?

Кіраўніцтва ФРЮ выдатна ведала, што пасля дарэмнага выкарыстання ўсіх сродкаў дыпламатычнага ўздзеяння НАТО будзе вымушаны прымяніць сілавыя метады. Канечне, бамбардзіроўкі — гэта бяда. У даным выпадку, мяркую, за ахвяры перш за ўсё нясе адказнасць кіраўніцтва Югаславіі.

Вось так, гаспадзін Зімоўскі! Перш чым садзіцца перад тэлекамерай, трэба разабрацца ў сапраўднай сітуацыі, а не паўтараць тое, што кажуць Зюганаў і Жырыноўскі з Масквы. А па-другое, трэба казаць праўду, толькі праўду і нічога, акрамя праўды.

**Яўген ФІЛІПОВІЧ,**
**жыхар пас.Гарадзішча Мінскага раёна.**

Міні-рэцэнзія

## "Туцці-Фруцці" па-беларуску



Выпускны курс вядомага тэатральнага педагога Лідзіі Манаковай з удзелам іншых аддзяленняў Беларускай акадэміі мастацтваў падрыхтаваў некалькі творчых праектаў, сярод якіх спектакль "Туцці-Фруцці" лепш за ўсё стасуецца з намерамі менавіта студэнцкага тэатра.

Сцэнарый пастаноўкі вызначаецца поўным экспромтам. На сцэне падчас прадстаўлення не вымаўляецца ні слова. Асноўную ўвагу гледачоў прыцягвае харэаграфія.

Малады чалавек, які прыехаў з правінцыі ў сталіцу, адчувае сябе няўтульна. У вялікі горад яго прывяла мара — на сцэне яе ўвасабляе чароўная дзяўчына, якая вытанчанай пластыкай падтрымлівае імкненне юнака адшукаць сваё месца ў жыцці. Як і мноства іншых правінцыялаў-рамантыкаў, ён трапляе ў нейкую забаўляльную ўстанову, накшталт кафэшантана. У кафэ раптам з'яўляецца няспрытная сціплая дзяўчына. Высвятляецца, што незнаёмка не можа размаўляць — яна нямая. Але ўлюбёнага героя гэта не пужае. Ён выказвае шчырасць пачуццяў да сваёй выбранніцы, аднак у віхуры багемнага жыцця яны губляюцца... "Туцці-Фруцці" — нахабістыя наведвальнікі — зноў выпаўзаюць з цёмных куткоў кафэ і імкнуцца зняважыць светлыя пачуцці правінцыяла. Нягледзячы на спакусы, ён знаходзіць сілы не страціць надзеі...

Традыцыйны рамантычны вобраз закаханага мужчыны стварае Аляксандр Малчанаў. Ігра акцёра адрозніваецца выдатным майстэрствам. Асабліва ўражвае момант маральнага выбару яго героя, калі той нечакана даведваецца аб хваробе дзяўчыны. Правінцыял-рамантык ператварае сумнае прызнанне ў жыццесцвярджальны парад эфектаў. Закаханых вянчае "зорны дождж", пад акампанемент французскай мелодыі яны кружацца ў прыгожым танцы...

Уражвае агульны стыль пастаноўкі. У адрозненне ад некаторых іншых работ пачынаючых акцёраў, "Туцці-Фруцці" ўспрымаецца як закончаны спектакль. Не перашкаджаюць нават некаторыя элементы "капусніка", непазбежныя пры жаданні маладых акцёраў перанесці на сцэну ўсю моц сваёй энергіі. У спектаклі не хапае хіба што павелічэння разнастайнасці прасторавага існавання герояў. Сумнае кафэ не заўжды адпавядае імкліваму развіццю фантазіі акцёраў.

Як вядома, выпускны курс Лідзіі Манаковай чакае неблагая перспектыва. Многіх студэнтаў ужо запрасілі лепшыя сталічныя тэатры. Аднак, як часцей за ўсё атрымліваецца, большасць маладых акцёраў нават пасля самага прывабнага размеркавання імкнецца знайсці ангажэмент у Маскве ці нават за мяжой. Але як бы не складваўся акцёрскі лёс, варта памятаць, што глядач прыходзіць у тэатр не толькі дзеля таго, каб атрымаць асалоду ад віртуознай ігры "зорак", але і дзеля сустрэчы са шчырасцю — нават у малым...

**Андрэй АХМЕТШЫН.**

## "Беліта", "Модум" і іншыя

Можа калі-небудзь Францыя, заканадаўца мод у галіне парфумерыі, падзеліць пальму першынства з Беларуссю. Прынамсі, першыя ўпэўненыя крокі па выпуску экалагічна чыстых касметычных прэпаратаў айчынныя прадпрыемствы "прыгожай" галіны ўжо зрабілі.

У Палацы культуры ветэранаў адбылася ўрачыстая цырымонія, на якой былі падведзены вынікі Рэспубліканскага конкурсу "Лепшая прадукцыя года. Парфумерыя і касметыка". Ён праходзіў пад патранажам Беларускай экалагічнай партыі зялёных, Беларускага таварыства абароны спажыўцоў, ТАА "Экабрэйн" і Мінгарвыканкама. Для скрупулёзнага аналізу, які праводзіцца незалежным журы, сваю прадукцыю прадаставілі пяць беларускіх прадпрыемстваў. Сярод іх былі і добра вядомыя "Беліта", "Вітэкс" і менш вядомыя — "Марыёла", "Модум", "Аркабела". Прызёрамі і лаўрэатамі конкурсу сталі многія касметычныя прэпараты СП "Беліта", у тым ліку бальзам-кандыцыянер для падфарбоўкі валасоў, крэм ад маршчын, крэм для рук з вітамінам Е, шампунь, які ўмацоўвае валасы. Што ж датычыць прадпрыемтсва "Вітэкс", то ацэнку "пяць" атрымалі мусы для ўкладкі, крэмы і ласьёны для догляду скуры твару.

Пераможцам у намінацыі "касметыка для дзяцей" прызнаны дзіцячы шампунь "Элеганс" вытворчасці мінскай фірмы "Модум", а дыплом лаўрэата атрымала белітаўская серыя "Кроха". Лепшай пенай для ванн журы прызнала прадукцыю лідскага прадпрыемства "Марыёла". А лепшая туш для павек з прадстаўленых на конкурс вырабляецца на гродзенскай фірме "Акрабела". Выдатную ацэнку паставіла журы і новым зубным пастам фірмы "Модум", якія зусім нядаўна з'явіліся на прылаўках магазінаў.

**Аксана АСПІШЧАВА.**

Культура

## "Каралеўская" лютня загучыць і ў Беларусі

Незвычайны канцэрт, арганізаваны Брытанскім Саветам, адбыўся ў сталічным Доме дружбы. Увесь вечар тут гучала лютня. Вядомы лютніст з Вялікабрытаніі Брайн Райт выконваў творы іспанскіх і англійскіх кампазітараў 15—16 стагоддзяў. Гэты камерны, вельмі тонкі па гуку інструмент перажывае сёння сваё другое нараджэнне. Ён быў завезены ў Еўропу з арабскіх краін у восьмым стагоддзі, але папулярным стаў толькі ў 15—17 стагоддзях. Практычна кожны еўрапейскі кароль іграў на лютні, што лічылася прэстыжным у тыя часы. Таму яна і атрымала назву "каралеўская".

Дарэчы, гэты рэдкі і дарагі інструмент хутка асвояць і беларускія музыканты. Год таму, калі Брайн Райт прыязджаў з канцэртам у Пінск, нашы музычных спраў майстры зрабілі чарцяжы яго інструмента. У гэтым годзе Брайн Райт зноў пабываў у Пінску — на фестывалі гітарнай музыкі — і прывёз у падарунак струны для "беларускай" лютні.

**Галіна ШАРАЕВА, БелТА.**

Криминальный рынок

# Когти



Коллаж Юрия ТОКАРЕВА.

*(Продолжение. Начало в №№ )*

### 4. Отвезли в лес, заставили копать себе могилу

Они только познакомились, а уже произвели приятное впечатление. Оба мужика бизнесмены. Один работает коммерческим директором какой-то фирмы, второй — предприниматель. И возраст приятный — одному за тридцать, второму — около сорока. Она хоть уже и не юная, но еще "что надо". А какие приятно-деловые манеры у всех.

Решили выпить. Так сказать, отметить наступающее "7 ноября". Пили и веселились до позднего вечера. Ночевать поехали вместе.

А утром, когда Надя ушла, бизнесмены не смогли отыскать свою сумку. Ту самую, в которой лежала валюта. Все перерыли, без толку. "Ну, шлюха, тебе это так не сойдет", — зло выругался вчерашний элегантный Дима.

Бизнесмены поехали к Наде и вскоре доставили ее "для разговора" в квартиру одного знакомого.

— Вот что, девка, возвращай валюту и выметайся, иначе... — сурово потребовали мужики.

— Какую валюту? Вы о чем? — вытаращила глаза вчерашняя приятная спутница.

— Ту, что была в нашей сумке. Кстати, и сумочка нам тоже нужна.

— Не знаю никакой сумочки. Ищите там, где посеяли...

Бизнесмены переглянулись и, взяв даму под руки, завели в ванную. Под шум воды хорошо дали кулаками по голове и спине. Подсунув голову под струю холодной воды, спросили:

— Ну что, вспомнила?

Она твердила одно: не знаю никакой сумки.

Мужики усадили Надю в машину, отвезли в лесной массив "Колодищи", продолжили истязание. Основательно избив, заставили копать себе могилу. Не хотела — били лопатой по ногам, кололи ножом в шею и грудь. Затем душили шарфом, закапывали живую в яме. Она испытывала нечеловеческие мучения и не раз теряла сознание. Но всегда твердила одно, что сумки и валюты не брала. То ли в самом деле так было, то ли хорошая сумма "твердых денег" придавала ей уверенности.

Протрезвев и, видимо, потеряв надежду, бизнесмены отпустили жертву.

Суд пришел к выводу, что оба они нуждаются в изоляции от общества, и дал им по два года на размышление и исправление.

Американские доллары действуют на некоторых граждан СНГ магически. Увидев зелененькую бумажку, они мгновенно забывают обо всем, чему их учили в школе, перерождаются в лютых зверей, готовых тут же перегрызть горло обладателю заморской купюры любого достоинства.

Андрей Бондарь — сама вежливость. Около тридцати лет от роду, русский, образование среднее, холост. А какое объяснение...

Как он сошелся с Сашей, одному Богу известно. Вообще, он любит общаться с молодежью. Юнцы легко выбалтывают, что у них в квартире есть ценного и где что лежит. Уже после двух встреч Андрей понял, что семейка Саши небедная. Но его больше всего интересовали зелененькие. Узнав, что Сашок, как настоящий "крутой юноша", мечтает о пистолете, тут же пообещал достать, "что надо, и подешевле, как другу". При этом подчеркнул, что подобные вещи делаются только за доллары. "Пошастай по шуфлядкам", — посоветовал юному другу. И когда тот вскоре принес нужную сумму в зелененьких, понял, что надо действовать решительно.

В дружеских беседах он быстро получил нужную информацию. Оказывается, доллары, а их немало, родители хранят в сейфе. Обнаружив пропажу, они перетащили металлический ящик на дачу, когда сами уезжают на работу, на "грядках" остается старенькая бабушка да Сашка. Вскоре Андрей разузнал и адрес дачи.

Уже на второй день он рулил к даче с дружком Максимом. С собой взяли револьвер, ножи, надели парики...

Было утро, будний день, на дачах почти никого не было. На стук дверь открыла старушка. И тут же получила удар ножом в шею. Она и крикнуть не успела, присела и покатилась по лестнице в подвальное помещение. Максим спустился следом, чтобы добить. После нескольких ударов по шее она перестала храпеть и шевелиться. Но он колол и колол ее ножом, бил по голове шваброй. Для верности. Медэксперты потом насчитают на ее теле двадцать пять ножевых ран и не менее десяти ударов шваброй.

На шум вышел Сашок. Андрей схватил его рукой за шею и поднес к глазам нож: "Ну, щенок, где сейф?" "Там", — показал тот рукой вверх. На втором этаже нашли сейф, взломали. Улов оказался не столь богатым, как предполагали. Но и 1.600 долларов, 80 марок, 80 польских злотых тоже вызвали довольную улыбку.

Андрей подошел к Саше и, улыбаясь, быстро саданул ножом в шею, а его дружок — сзади ножом в спину. Получилось классно. Паренек сразу опустился на пол, тихо обмяк. Собрали в сумку вещи, золотые изделия и спокойно удалились.

Извечная проблема: надо ли подростков приобщать ко всем семейным делам? С одной стороны, они должны знать, как "семья выкручивается", учиться правильно расходовать семейный бюджет. С другой — надо ли их посвящать: сколько денег и где они лежат? То есть следует ли быть "искренними до конца"? Толково выразился по такому случаю один мудрец: "Никак не пойму, что лучше — добро, которое приносит зло, или зло, приносящее добро?"

Хорошо иметь доллары. Да и как в наши дни без них? Это все равно, что в деревне без самогонки. Без нее шагу не сделаешь: ни огород не вспашешь, ни дров не выпишешь... Но заимев зелененькие, становишься объектом нездорового внимания самых отпетых мошенников и преступников. Словом, без денег плохо, а с ними еще хуже.

Ирина — баба битая. Но допустила одну ошибку. Как-то выболтнула хорошему другу, что имеет пару сотен долларов. Позже пожалела. Ибо того словно подменили, заладил: одолжи да одолжи, верну с процентами, вот крест тебе. Даже расписку дал за триста баксов и твердое обещание насчет возврата. Однако прошли все сроки, а долг так и продолжал висеть на нем. Даме пришлось даже прибегнуть к крутому методу. При очередной встрече заявила, что если баксы не вернет, то покажет жене компромат — фото интимного характера, на котором оба запечатлены в интересной ситуации.

Последний аргумент несколько продвинул дело с возвращением долга. Должник пообещал погасить часть "кредита" своим участием в ремонте квартиры. Зная страсть подруги к яркой плитке, предложил съездить к знакомому на базу и выбрать любую по вкусу. Он оплатит и стоимость, и укладку. Ирина согласилась на такой вариант.

На второй день они уже катили "на базу", в сторону деревни Сухорукие. В лесу должник набросил на шею дамы сердца удавку и с помощь дружка, взятого для этой цели, задушил ее. Здесь же, в лесу, закопали теплый труп.

Оперативникам помогла информация, оставленная дамой своему сожителю — куда и с кем уехала.

Я знаю много случаев, когда знакомые одалживали друзьям доллары. Но я знаю мало фактов, когда они получали их в срок обратно. Да что там знакомые! Взять свои доллары непросто даже в банке.

Поэтому трудно понять "тертого калача" Аркадия, который решился одолжить знакомому аж 920 долларов. То ли клятва в дружбе, то ли еще что-то повлияло на него. Возврат, как и следовало ожидать, шел туго. С помощью крутого разговора удалось получить лишь 320 зелененьких.

Надо сказать, что должник Денис вроде бы старался погасить задолженность. На суде приводились конкретные факты, когда он умолял своих корешей выручить, одолжить доллары, чтобы рассчитаться с повисшим долгом. Но не удалось никого "прошибить слезой".

В результате он вынужденно свернул на хорошо проторенную тропу. То ли сам о ней догадался, то ли кто из дружков надоумил. Тропа эта на криминальном языке звучит довольно просто: нет кредитора — нет проблемы. Денис раздобыл в районе Комаровского рынка "мелкокалиберное стреляющее устройство", прихватив вдобавок нож и отправился на "боевое дежурство". Поздно вечером он подкараулил кредитора, который сошел с электрички, подкрался к нему сзади и в первых же кустах выстрелил "в правую височную область". Для верности добавил "два удара ножом в шею". Кредитор скончался на месте.

Денису нет и тридцати, русский, студент четвертого курса университета, холост, ранее не судим. Теперь отбывает длительный срок.

Вот как изменили судьбу эти страшные девятьсот долларов.

**Иван МАКАЛОВИЧ.**

*(Продолжение следует).*

